# ЦІ ЎВЯДУЦЬ УКРАІНЦЫ




ВІЗЫ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

СТАР. 3


# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


# ЧАМУ ЖАНЧЫНАМ ПЛАЦЯЦЬ

МЕНШ ЧЫМ МУЖЧЫНАМ



СТАР. 5

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 11.07.13-18.07.13 г.

# ХТО АДКАЖА ЗА ЗМАРНАВАНЫЯ 2 000 000 000 РУБЛЁЎ?

Скандал вакол “Міс Мінск-2013”: адмывацца ад бруду прыйдзецца яшчэ доўга.



*А ёсць у Беларусі і такія конкурсы прыгажосці*

У Інтэрнэце знайшліся, мякка кажучы, пікантныя фота пераможцы – 21-гадовай Яны Канцавенка. На адным з іх дзяўчына ляжыць на падлозе начнога клуба з аголенымі цыцкамі, на якіх намазаная смятанка. Іншыя кадры – не лепш.

Трохі пазней высвятлілася, што яшчэ некалькі фіналістак конкурсу таксама не адпавядаюць мінімальным маральным стандартам, усталяваным для падобных мерапрыемстваў. Напрыклад, другая віцэ-міс Наталля Башура танчыць go-go у забаўляльных установах. А “Міс сяброўства” Кацярына Войтус – наогул стрыптызёрша.

У іншых краінах, калі высвятляецца, што пераможца конкурса прыгажосці здымалася аголенай або непрыстойна паводзіла сябе, яе звычайна пазбаўляюць тытулу. Аднак у выпадку з “Міс Мінск” пытанне павісла ў паветры. Арганізатары конкурсу – Мінгарвыканкам, тэлеканал СТВ і Нацыянальная школа прыгажосці – дагэтуль адмоўчваюцца.

## ДЫК КАГО ВЫ ВАЗІЛІ ДА ПЕРШАЙ АСОБЫ КРАІНЫ?

Магчыма, прычына палягае ў тым, што для фіналістак “Міс Мінск-2013” паспелі зладзіць прыём у Аляксандра Лукашэнкі. Там, дарэчы (ці, хутчэй, не дарэчы), прысутнічаў малодшы сын кіраўніка Беларусі Мікола. І цяпер, калі скасаваць вынікі конкурсу, паўстане пытанне да арганізатараў: дык каго вы вазілі да першай асобы краіны? Стрыптызёрш – прафесіяналак і аматарак?

Тым больш, высвятлілася, што журы ведала пра род заняткаў некаторых удзельніц “Міс Мінск”. У Сеціве ёсць відэа кастынгу конкурсу, на якім дзяўчаты распавядаюць, што працуюць у начных клубах і дэманструюць як гэта робяць. Танцы ў бікіні выклікалі ў некаторых сябраў журы непрыхаванае захапленне…

Таму СТВ да апошняга рабіў выгляд, што нічога не адбываецца. Фінал “Міс Мінск” планаваўся да паказу 6 ліпеня, аднак у выніку быў адменены без усялякіх тлумачэнняў.

Арганізатары, імаверна, разлічваюць, што скандал суцішыцца праз нейкі час сам сабой.

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАРЭЧЫ**

## СТВ НЕ ПАКАЗАЎ ФІНАЛ «МІС-МІНСК-2013»

Тэлеканал СТВ зняў з трансляцыі фінальнае шоў конкурсу прыгажосці «Міс Мінск - 2013», які абыйшоўся ў 230 тыс. даляраў. Яго трансляцыя была прызначана на 20:10 6 ліпеня, калі, аднак, замест конкурсу прыгажосці быў паказаны канцэрт «Алег Молчан збірае сяброў».

Як паведамляў Тэлеграф, рашэнне не паказваць фінал конкурсу кіраўніцтва тэлеканала СТВ прыняло 2 ліпеня. Тэлеканал таксама прыбраў на сваім сайце дзённікі і інфармацыю аб праекце «Міс Мінск - 2013». Выдаленыя старонкі конкурсу і ў сацыяльных сетках.

**НАВІНА**

## ВЫЯЎЛЕНЫ ФАЛЬШЫВЫЯ БАНКАМАТЫ

**У маскоўскіх аэрапортах Унукава і Шарамецьева і двух вялікіх гандлёвых цэнтрах расійскай сталіцы выяўлены фальшывыя банкаматы, пастаўленыя ад імя няіснага «Внешінвестбанка». Цікава, што дызайн і кантэнт сайта яны здзёрлі ў беларускага btabank.by.**

Банкаматы-махляры выглядалі цалкам праўдападобна. Аднак пасля ўводу PIN-кода і запыту на выдачу грошай на экране з’яўлялася паведамленне пра адмову ў абслугоўванні. Затое прылада захоўвала дампы картак, а зладзеі атрымлівалі доступ да карткавых рахункаў і спісвалі з іх грошы.



# МІНЮСТ ВЫНЕС ПІСЬМОВАЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ «ПЕРСПЕКТЫВЕ»

**Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла пісьмовае папярэджанне рэспубліканскаму грамадскаму аб'яднанню «Перспектыва» за парушэнне патрабаванняў закона «Аб масавых мерапрыемствах», паведаміў лідар арганізацыі Анатоль Шумчанка.**




У прыватнасці, Мінюст устанавіў, што «старшынёй „Перспектывы" Шумчанкам на тэрыторыі Гандлёвага дома „Ждановічы" каля будынка „Мір моды — 1" было арганізавана несанкцыянаванае масавае мерапрыемства».

У міністэрстве адзначаюць, што «дакументы аб правядзенні масавага мерапрыемства ў мясцовы выканаўчы і распарадчы орган не падаваліся».

Тым самым, гаворыцца ў папярэджанні, «парушаны патрабаванні закона „Аб масавых мерапрыемствах" у неабходнасці атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства».

Міністэрства юстыцыі таксама папярэджвае «Перспектыву» аб тым, што «ў выпадку паўторнага на працягу года парушэння заканадаўства ці ўласнага статута ў дачыненні да гэтага грамадскага аб'яднання можа быць пастаўлена пытанне аб прыпыненні яго дзейнасці ці ліквідацыі ў судовым парадку».

Шумчанка лічыць, што рашэннем Мінюста ўлады перастрахаваліся перад магчымым правядзеннем 15 ліпеня маршу пратэсту прадпрымальнікаў, заяўка на які была адклікана.

«Таксама гэта рэакцыя ўлад на мерапрыемствы, якія мы арганізуем у абарону прадпрымальнікаў. Яны паказваюць, што могуць пайсці на ліквідацыю „Перспектывы", калі мы далей працягнем барацьбу за нашы правы», — адзначыў ён.

Шумчанка падкрэсліў, што «Перспектыва» «бярэ пад увагу рашэнне Мінюста, але яно ніяк не адаб'ецца на далейшай дзейнасці арганізацыі».

Лідар «Перспектывы» таксама мяркуе, што папярэджанне «пацвярджае высокі статус арганізацыі, значыць, мы чагосьці дамагліся сваімі дзеяннямі».

Шумчанка не выключае, што Мінюст можа ажыццявіць сваю пагрозу па ліквідацыі арганізацыі. «Мы гатовыя да ўсяго. Пакуль „Перспектыва" як грамадскае аб'яднанне працуе ў эканамічнай плоскасці. Калі арганізацыю ліквідуюць, то ў Беларусі дастаткова палітычных партый, у межах дзейнасці якіх можна працягваць адстойваць свае правы. Але мы спадзяёмся, што ва ўлад хопіць разважлівасці пакінуць нам магчымасць дзейнічаць у эканамічнай плоскасці», — сказаў ён.

Нагадаем, 27 чэрвеня Шумчанка быў асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска на пяць сутак адміністрацыйнага арышту за арганізацыю несанкцыянаванага сходу. У той дзень на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Беларусі прайшла аднадзённая забастоўка прадпрымальнікаў, якія выступаюць супраць увядзення з 1 ліпеня тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці». Рашэнне правесці папераджальную забастоўку прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу прынялі на форуме прадпрымальнікаў 24 чэрвеня.

# «СТАРЫ ОЛЬСА»: НАС АБАКРАЛІ РУСКІЯ НАЦЫЯНАЛІСТЫ

**Музыка гурту «Стары Ольса» без дазволу скарыстаная ў фільме, знятым журналістамі расійскай «Комсомольской правды».**

У ім ідзе размова пра сям'ю Германа Сцерлігава, аднаго з першых расійскіх мільянераў, вядомага сваімі радыкальнымі нацыяналістычнымі поглядамі, піша budzma.org.

Лідар беларускага гурта Зміцер Сасноўскі абураны тым, што іх музыка скарыстаная для прапаганды расійскага нацыяналізму. «Гэта чарговы факт выкарыстання нашай музыкі ў абсалютна супрацьлеглых мэтах. Мы з'яўляемся шчырымі патрыётамі Беларусі і прыкладаем шмат намаганняў да адраджэння нашай старой музыкі, а таму не можам спакойна трываць факт выкарыстання гэтай музыкі ў прапагандзе расійскага нацыяналізму, які знішчаў і працягвае знішчаць нашу родную культуру», — заявіў Зміцер Сасноўскі сайту budzma.org.

Гэта не першы выпадак, калі музыку беларускага гурта літаральна крадуць расійцы і выкарыстоўваюць у сваіх мэтах.

Так, некалькі год таму таварыства «Родноверы» выдала шэраг кампазіцый «Старога Ольсы» пад назвай «Древнерусская музыка». Тэлеканал НТВ без дазволу музыкаў скарыстаў іх творы для агучвання перадачы пра Каўказ, а адна з расійскіх кампаній незаконна прадавала рынгтоны «ольсаў». Зміцер Сасноўскі кажа, што раней у такіх канфліктных сітуацыях дапамагаў разабрацца Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці.

Прынамсі, продаж дыскаў «ольсы» пад шыльдай «Древнерусская музыка» і распаўсюд рынгтонаў атрымалася прыпыніць.

Але, як вядома, кіраўніцтва НЦІУ звольнілася на пачатку месяца ў поўным складзе. «Фактычна цяпер беларускія музыкі не маюць ніякай абароны, і разбірацца з такім выпадкамі стала больш складана», — кажа лідар «Старога Ольсы».

**СЯРГЕЙ БУДКІН**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ХТО АДКАЖА ЗА ЗМАРНАВАНЫЯ 2 000 000 000 РУБЛЁЎ?

Бо, калі прызнаць памылку і перагледзець вынікі конкурсу, шмат хто можа згубіць пасады.

Аднак некаторыя пытанні паўстаюць у любым разе. Вядома, што на гэтае шоў было выдаткавана каля 2 мільярдаў рублёў. Атрымалася, што гэтыя грошы пайшлі на вецер, бо яно нават не было паказаная па тэлебачанні. Чым не справа для камітэта дзяржаўнага кантролю?

Маральную ж шкоду наогул цяжка вымярыць. У любым разе, калі падыходзіць да гэтай гісторыі прынцыпова, то трэба звальняць кіраўніка СТВ Юрыя Казіятку. Але ж гэта адданы служака існуючай улады. Таму яму могуць дараваць і большыя праколы.

## НА ПАДРЫХТАВАНУЮ ГЛЕБУ

Але ж ад скандалу пацярпеў імідж усёй Беларусі. Расійскія тэлеканалы паказалі сюжэты пра "Міс Мінск" з вульгарнымі фота і з'едлівымі каментарамі. Цяпер за нашай краінай замацоўваецца рэпутацыя месца, дзе грахі не толькі не асуджаюцца, але нават узнагароджваюцца.

Цікава, што менавіта ў дзень, калі адбываўся фінал "Міс Мінск-2013"(27 чэрвеня), "Інтэрфакс" распаўсюдзіў артыкул пра тое, што Беларусь патрапіла у ТОП-10 сусветнага рэйтынгу заганнасці. Праўда, гэта не тычылася сэксуальных скандалаў. Рэйтынг ствараўся сусветна вядомай агенцыяй Bloomberg, сыходзячы з чатырох паказчыкаў: сярэдняя колькасць алкаголю і цыгарэтаў, якія ўжывае жыхар краіны, распаўсюджанасць наркотыкаў і агульныя страты ад азартных гульняў. Беларусь апынулася на дзявятым месцы.

Так што, скандал вакол "Міс Мінск" патрапіў у нейкім сэнсе на падрыхтаваную глебу. Адмывацца ад гэтага бруду давядзецца досыць доўга. Прычым не толькі тым, чые амаральныя паводзіны сталі нагодай для кпінаў, але й усёй краіне.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ВВЕДУТ ЛИ УКРАИНЦЫ ВИЗЫ ДЛЯ БЕЛОРУСОВ

### Недавно группа белорусских журналистов и экспертов встречалась со своими украинскими коллегами.

Сквозная тема этих встреч: что Украина может получить от возможного подписания соглашения об Ассоциации с Евросоюзом во время Вильнюсского саммита Восточного партнёрства (состоится осенью этого года) и что в следствие этого можем потерять мы?

На вопросы «Тут і цяпер" отвечает один из участников поездки **политический обозреватель Роман Яковлевский.**

**– Роман, насколько мы отстали от наших южных соседей в плане евроинтеграции и сколько времени потребуется нам для того, чтобы нагнать их при благополучном варианте развития событий?**

– Нынешнее белорусское руководство не считает, что Беларусь отстает от Украины и других стран в процессе евроинтеграции. Посему оно считает самым оптимальным вариантом развития страны существующую политическую и экономическую модель. Сколько времени понадобится для того, чтобы осознать, что данная модель уже исчерпала себя, сказать трудно. Ведь в стране все зависит от одного человека. А что у него в голове, наверное, не знает никто.

**– Европейский Союз, скорее всего, подпишет Соглашение об ассоциированном членстве Украины в ЕС. Чем это может аукнуться для Беларуси?**

– Думаю, в первую очередь усилением пограничного и таможенного контроля на белорусско-украинской границе. Нельзя полностью исключать и введения в недалекой перспективе визового режима между двумя странами. Правда, существует мнение, что данное соглашение между Украиной и ЕС может быть запущено не в полном объеме. Некоторые его спорные статьи, возможно, оставят на потом.




*Нам па еўраінтэграцыі будзе вельмі складана дагнаць Украіну*

В Минске, по-моему, еще полностью не осознают возможных негативных последствий для Беларуси от усиления реальной евроинтеграции Украины. Как это ни печально, но Европа может стать для белорусов дальше во всех смыслах.

**– Во время недавних встреч с украинскими политиками, политологами и журналистами Сергей Кузин, в прошлом известный белорусский радиоведущий, а сейчас мегазвезда украинского радиоэфира, заявил, что Украина уже никогда не вернется в прошлое. Насколько оправдан его оптимизм?**

– В Украине реальная политическая жизнь. Ее пристально отслеживают и, можно сказать, контролируют средства массовой информации, разные по своей политической ориентации. В этом гарантия движения вперед. И я не вижу оснований подвергать "исторический оптимизм" Кузина сомнениям.

**– Какой будет реакция Александра Лукашенко на возможное подписание ЕС соглашения с официальным Киевом?**

– Беларусь европейская страна, а вот ментальность ее руководства – наследие советского прошлого. В случае подписания Соглашения ЕС об ассоциации с Украиной вряд ли стоит ждать доброжелательной реакции со стороны официального Минска.

**ВИКТОР АЛЕШКЕВИЧ**

## К СВЕДЕНИЮ

Результаты недавнего социологического исследования, проведенного Агентством стратегических коммуникаций Res Publica, показали, что 60% опрошенных украинских экспертов уверены: в случае, если вопрос освобождения Тимошенко не будет решен до Вильнюсского саммита (осенью этого года), ЕС все равно должен будет подписать соглашение с Украиной, поскольку будущее страны не должно быть заложником отдельных личностей или ситуаций.

Еще 20% считают, что Евросоюз не должен подписывать соглашение с Украиной, потому что принципы ЕС важнее интересов отдельных стран. 20% не определились с ответом.

В том, что Соглашение об ассоциации будет подписано на Вильнюсском саммите Восточного партнерства в ноябре, уверены 70% экспертов. Еще 3,3% считают, что Украина не успеет оформить ассоциацию до конца текущего года, но сделает это до президентских выборов 2015 года. 6,7% прогнозируют подписание уже после 2015 года. В то же время 10% респондентов придерживаются мнения, что Соглашение об ассоциации в ближайшие годы подписано не будет.

# ШОЎ НА "КАПЕЙКІ"




*Ніяк не нагуляемся*

**Парад, які адбыўся ў Мінску 3 ліпеня, адметны адразу па некалькіх пазіцыях.**

Удзел у шэсці беларускіх вайскоўцаў будуць браць іх расейскія калегі. 170 дэсантнікаў з Пскова ўжо перадыслакаваліся ў Мінск.

З аднаго боку, гэта не навіна: расейцы бяруць удзел у нашых парадах ужо трэці год запар. Але ж на тле падзеяў вакол авіябазы падзея набывае іншы кантэкст.

У красавіку міністр абароны РФ Сяргей Шойгу ў размове з Аляксандрам Лукашэнка агучыў намер стварыць расійскую авіябазу ў Беларусі. Пярэчанняў з боку апошняга падчас сустрэчы не было. Але неўзабаве Лукашэнка практычна абверг свайго суразмоўцу. Праз пару дзён кіраўнік Беларусі заняўся "перакладам":

— Что касается авиационной базы, это, может быть, несколько прозвучало как база. Нет, речь идет о поставке в наши вооруженные силы [самолётов].

У той жа час Лукашэнка не выключыў магчымасці з'яўлення новага расійскага вайсковага аб'екту ў нашай краіне:

— В какой форме, мы будем договариваться — база это будет или мы в существующие белорусские части поставим российские самолеты-истребители...

Праз два месяцы высвятлілася, што база ўсё-ткі будзе. Ужо ў гэтым годзе расійскія ваенныя самалёты з'явяцца на аэрадроме ў Лідзе. Але раней за іх прыляцелі дэсантнікі з Пскова. Калі падзеі і далей будуць разгортвацца ў гэткім рэчышчы, хутка колькасць расейскіх вайскоўцаў на нашых парадах можа значна павялічыцца.

А пакуль міністэрства абароны адбіваецца ад абвінавачванняў у марнаванні сродкаў на вайсковае шоў.

— Некоторые СМИ распространяют информацию, имеющую определенный подтекст: якобы парад стоит огромных денег. Мы специально посчитали и увидели, что на фоне всех расходов — сущие копейки — менее 0,2% от расходов, выделяемых на военное ведомство, Вооруженные силы в год, — заявіў журналістам прэсавы сакратар галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы міністэрства абароны Уладзімір Макараў.

"Еўрарадыё" не паленавалася палічыць, колькі гэта атрымаецца канкрэтна. Выявілася, што толькі наўпроставыя выдаткі на парад складуць 1,5 мільёны долараў. Нішто сабе "копейки"!

У гэтую суму не ўваходзяць розныя пабочныя страты. Ужо добра вядома, што пасля параду бронетэхнікі шмат дзе на мінскіх вуліцах асфальт выглядае нібы пасля бамбёжкі. А рамонт дарожнага пакрыцця – дарагая справа.

Таму пытанне, ці варта праводзіць парад, застаецца адкрытым. Але не для беларускіх уладаў. Яны лічаць неабходнай дэманстрацыю ўласнай магутнасці. Разлічанае гэтае шоў перадусім на ўнутраную аўдыторыю, бо Захад пра сапраўдны стан нашых войскаў і так добра паінфармаваны. Таму яго наўрад ці спалохаеш такімі відовішчамі.

Асабліва пасля добра вядомай гісторыі, калі звычайныя пілёты-аматары перасяклі літоўска-беларускую мяжу, даляцелі да Мінску, раскідваючы па дарозе плюшавых мядзведзікаў, і бесперашкодна вярнуліся назад. Дарэчы, здарылася гэта на наступны дзень пасля папярэдняга параду...

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЗНІЖЭННЕ ТЭРМІНОВЫХ РУБЛЁВЫХ УКЛАДАЎ

**Паводле звестак Нацбанка, на 1 ліпеня тэрміновыя рублёвыя ўклады фізасоб склалі 22,9 трлн. рублёў, скараціўшыся за чэрвень на 71,8 млрд.**

З пачатку 2013 года ў Беларусі назіраўся пастаянны рост тэрміновых рублёвых укладаў насельніцтва. Так, у студзені рост тэрміновых укладаў фізічных асоб склаў 1,6 трлн. рублёў, у лютым — амаль 2 трлн. рублёў, у сакавіку — таксама амаль 2 трлн. рублёў, у красавіку — 1,38 трлн. рублёў, у маі — 0,8 трлн. рублёў.

Скарачэнне прытоку тэрміновых рублёвых укладаў насельніцтва ў банкаўскую сістэму адбывалася на фоне змяншэння даходнасці па рублёвых дэпазітах, што было абумоўлена зніжэннем стаўкі рэфінансавання.

Нагадаем, Нацбанк на працягу сакавіка-чэрвеня знізіў стаўку рэфінансавання з 30 да 23,5%. У ліпені змяняць стаўку рэфінансавання рэгулятар адмовіўся. «Сезоннае павышэнне попыту на замежную валюту з боку насельніцтва вызначае мэтазгоднасць захавання жорсткасці грашова-крэдытнай палітыкі, уключаючы дзейны ўзровень працэнтных ставак у эканоміцы» — так Нацыянальны банк аргументаваў нязменнасць стаўкі рэфінансавання.

Між тым апытаныя банкіры мяркуюць, што Нацбанк вырашыў не зніжаць стаўку рэфінансавання ў ліпені з-за асцярогі даларызацыі ўкладаў.

Калі ў трэцім квартале года будзе адбывацца працэс даларызацыі ўкладаў, магчыма нават павышэнне стаўкі рэфінансавання, прагназуюць банкіры.

Восенню мінулага года ў Беларусі на фоне зніжэння працэнтных ставак і росту дэвальвацыйных чаканняў укладчыкі сталі пераводзіць рублёвыя ўклады ў валютныя дэпазіты.

У сувязі з гэтым Нацбанк у трэцім квартале 2012 года спыніў працэс зніжэння стаўкі рэфінансавання.

Восенню 2012-га ў банкаўскай сістэме назіраўся дэфіцыт рублёвай ліквіднасці, з-за чаго банкі павялічвалі працэнтныя стаўкі па ўкладах, што спрыяла росту прывабнасці рублёвых дэпазітаў.

У сакавіку гэтага года Нацбанк аднавіў працэс зніжэння стаўкі рэфінансавання, у выніку чаго даходнасць па рублёвых дэпазітах зноў стала змяншацца.

Пачынаючы з другой паловы чэрвеня ў краіне адзначаецца рост курсу долара, што яшчэ больш зніжае прывабнасць рублёвых зберажэнняў.

# БЕЛОРУССКИЕ ЖЕНЩИНЫ ЗАРАБАТЫВАЮТ МЕНЬШЕ МУЖЧИН

**Около 65% молодых белорусок в возрасте 15-24 лет удовлетворены уровнем своего благосостояния, и почти 85% девушек надеются на улучшение условий жизни через год.**

Таковы данные предварительного отчета многоиндикаторного кластерного обследования по оценке положения детей и женщин (MICS4) в Беларуси, опубликованного на сайте Национального статистического комитета.

Во время опроса было заполнено 5745 индивидуальных опросников для женщин в возрасте 15-49 лет. Белорусок спрашивали, например, о доступе к СМИ и использовании информационно-коммуникационных технологий, о контрацепции и репродуктивном здоровье, отношении к домашнему насилию и употреблению табака и алкоголя, а также об удовлетворенности жизнью (по 7 основным показателям).

## ЧЕМ МЕНЬШЕ ЗНАНИЙ, ТЕМ РАНЬШЕ ЗАМУЖ

Согласно результатам опроса, впервые вышли замуж или вступили в незарегистрированные отношения с мужчиной до наступления полных 18 лет около 6% женщин. При этом в сельских населенных пунктах этот показатель вдвое превышает цифры городов и поселков городского типа (11% против 5% соответственно). Обследование выявило интересную деталь: среди женщин с общим базовым образованием 19% вышли замуж до 18 лет, а доля таких женщин с высшим образованием – всего 2%.

Кстати, к образованию молодые белоруски всё же тянутся охотнее своих сверстников-мужчин: девушек в возрасте 20–24 лет, продолжающих образование после школы, в 1,5 раза больше, чем юношей.

**СПРАВОЧНО**

**Обследование было проведено в 2012 году при поддержке Детского фонда ООН (ЮНИСЕФ).**

MICS – это международная программа обследований домашних хозяйств, разработанная ЮНИСЕФ. Цель MICS4 в Беларуси – получение объективной информации в области охраны здоровья матери и ребенка, развития детей и их воспитания. Такого рода обследование проводилось в республике во второй раз и позволило получить информацию, касающуюся важных аспектов жизнедеятельности детей: состояния их питания, здоровья, распространенности детского труда, основных методов воспитания ребенка в семье и различных видов деятельности, содействующих обучению детей в раннем возрасте.

Публикация полного окончательного отчета о положении детей и женщин в Республике Беларусь запланирована на май 2013 года.



*Ідэальная жанчына па версіі Інтэрнета*

“Кстати, к образованию молодые белоруски всё же тянутся охотнее своих сверстников-мужчин: девушек в возрасте 20–24 лет, продолжающих образование после школы, в 1,5 раза больше, чем юношей”.

## 7 ИЗ 100 БЕЛОРУСОК ДЕТЕЙ НЕ ПЛАНИРУЮТ

С репродуктивным здоровьем, контрацепцией и планированием семьи дела в Беларуси обстоят значительно хуже. Только 63% замужних и «состоящих в отношениях» женщин, принимавших участие в обследовании, используют тот или иной метод контрацепции. А каждые 7 из 100 опрошенных белорусок ограничены в своих действиях по планированию и рождению желанных детей. И то, что, забеременев, большинство из них как минимум четыре раза до родов наблюдаются у квалифицированных врачей, служит весьма слабым утешением для уповающих на государственную охрану материнства и детства...

## «ЗОМБОЯЩИК» И ЗДОРОВЫЙ ОБРАЗ ЖИЗНИ

Среди населения в возрасте 15-49 лет как минимум один раз в неделю читают газету или журнал 77% женщин, слушают радио 52% и смотрят телевизор по 96% женщин и мужчин. Правда, последний показатель зависит от возраста опрошенных: среди молодежи до 24 лет интерес к «говорящим ящикам» и «голубым экранам» несколько ниже, слушают радио около 43% и смотрят телевизор свыше 92% женщин. Молодежь к тому же гораздо активнее пользуется компьютером и интернетом – более 90% в городах и свыше 75% в сельских населенных пунктах.

“С алкоголем дела обстоят значительно хуже: всего 6% опрошенных женщин никогда не употребляли алкогольные напитки”.

Что же до вредных привычек, то результаты обследования позволяют проявлять осторожный оптимизм. В Беларуси 48% женщин (в 3 раза больше, чем мужчин!) в возрасте 15-49 лет никогда не курили и не употребляли курительные табачные изделия. С алкоголем дела обстоят значительно хуже: всего 6% опрошенных женщин никогда не употребляли алкогольные напитки. Правда, в возрасте 15-24 лет трезвенников чуть более 16%. Зато в этой же возрастной категории около 10% девушек выпили хотя бы одну порцию алкоголя (учитывались любые спиртные напитки, от банки пива до рюмки водки, коньяка и т.п.) до 15 лет.

**МИНЧАНКИ В ПРОЦЕНТАХ**

Женщины составляют более половины экономически активного населения Минска. Точнее, по словам председателя комитета по труду, занятости и социальной защите населения Мингорисполкома Жанны Романович, – 51,6%. Гораздо больше женщин, чем мужчин, традиционно работает в сферах образования и здравоохранения, существенно меньше – в силовых структурах.

Жительниц столицы отличает от мужской части горожан более высокий уровень образованности – 22,5% занятых в экономике женщин имеют высшее образование (против 15,8% у мужчин). Вместе с тем в среднем минчанки получают меньшую, чем работающие на аналогичных должностях мужчины, зарплату.

**ВИКТОРИЯ ПРОКОПОВИЧ**

# «ВОЛЬНЫ ГОРАД» ПРОШЁЛ

Недавно «Вольнаму гораду» исполнилось 15 лет. На юбилейные и не очень вопросы ответил бессменный главный редактор издания (со дня его основания) Сергей Неровный.




*"Вольны горад" не спыніць, не стрымаць*

## «ВРЯД ЛИ НАС ТЕПЕРЬ НАЗОВУТ «БОЕВЫМ ЛИСТКОМ»

**–. Для независимого издания, постоянно размещающего на своих страницах острые материалы, критикующие местную и республиканскую власть, 15 лет – это, прямо скажем, срок. А как начиналась история газеты и ее борьбы за право читателя получать объективную, информацию о ключевых событиях в Кричевском и Климовичском регионах?**

– Решение об издании в Кричеве неправительственной газеты «Вольны горад» было принято 19 декабря 1997 г. на заседании правления Кричевской городской ассоциации «Гуманитарная инициатива» (тогда таковая официально действовала в городе). Подоплекой стало то, что районная газета «Ленинский клич» перестала печатать мнения оппонентов власти. Исчезли даже безобидные стихи о природе, любви, смысле жизни, авторами которых были «не те люди». Думаю, как раз в эти годы окончательно закончилась «политическая оттепель», которая имела место в 90-х годах в Беларуси.

Подготовительная работа к реальному запуску газеты заняла около четырех месяцев. И 20 апреля 1998 г. первый номер «ВГ» (форматом А4 на 4 полосах) увидели кричевляне. Наверное, излишне говорить, что реакция власти была очень нервной. Меня даже приглашали в райисполком к заместителю председателя Зинаиде Скачковой. Суть ее претензий сводилась к следующему: «Кто разрешил?» После этого прошли годы.

К «ВГ» пришла известность и популярность. Пришло и влияние. И теперь заместитель председателя Кричевского райисполкома Сергей Морозов вряд ли назовет «ВГ» «боевым листком», как он выразился в интервью «Радыё Свабода» пять лет назад.

За 15 лет общество изменилось до неузнаваемости и вместе с ним изменилось и наше издание.

Коллектив «ВГ» никогда не отделял себя от действительности, а стержнем редакционной политики всегда являлось открытое стремление влиять на события, а не просто отражать их в газетных публикациях. Издатель газеты Владимир Кудрявцев, я как главный редактор, авторы «ВГ» Николай Гердий, Николай Царьков, Сергей Аржанцев, другие наши коллеги стоят на этих позициях и отстаивают свои убеждения словом и делом.

**– Теперь это, без преувеличения, является большой роскошью, которую могут позволить себе единицы…**

– Чтобы прекратить выход «Вольнага горада», власть имущие испробовали на вольнолюбивых журналистах весь свой репрессивный арсенал. Прокуроры и милиция, суды и областной ОМОН, КГБ и налоговики — все они вместе и поочередно пытались заглушить голос правды и свободы. Недалеко от них ушли и маргинальные фашиствующие элементы, подбрасывавшие редактору и сотрудникам «ВГ» листовки с угрозами. За эти годы газета пережила столько конфискаций, что в райотделе КГБ пора уже открывать небольшой мемориальный музей.

Исчерпав возможности прямого давления, власти перешли от штрафов и арестов к неприкрытой клевете, печатая в официальной районке глумливые «сказки» самого постыдного содержания. И что в итоге? Клеветнические измышления были прекращены в судебном порядке, а недавние хулители остались с навсегда испорченной репутацией. Известно, что рукописи не горят, а слова и дела получают должную оценку ещё при жизни тех, кто их совершил.

Развивая тему, хочется остановиться на следующем обстоятельстве. В Кричеве уже заметили, что каждый новый начальник отдела внутренних дел начинает службу с попытки «наехать» на неподконтрольную властям газету. Сложилась настоящая антиправовая традиция, подтверждающаяся, к сожалению, не один раз. С появлением очередного блюстителя закона на газету начинают усиленно охотиться. Последний руководитель РОВД традиционно распорядился задержать тираж сомнительного издания. Милиционеры, вызванные издателем «ВГ» в суд, путано объясняли судье о необходимости экспертизы конфискованного номера. Ясно, что малоубедительные отговорки запутавшихся правоохранителей принимаются судом и прокуратурой только до тех пор, пока страной правит нынешний несменяемый президент. Но также предельно ясно, что это пока…Что же касается проверки содержания, то «Вольны Горад» давно прошёл главную, самую объективную свою экспертизу — экспертизу временем.

## «В ЧИТАТЕЛЯХ МЫ НЕ СОМНЕВАЕМСЯ»

**– Правда, она даётся дорогой ценой.**

– Не без этого. Я бы, конечно, хотел видеть «ВГ» зарегистрированным изданием. Это позволит печатать газету в Беларуси, организовать подписку, продавать «Вольны горад» в киосках. К нам бы пришли рекламодатели, что, безусловно, укрепило бы газету материально. А в читателях мы нисколько не сомневаемся. Они у нас есть и будут. Можно было бы подумать о развитии газеты – выпуске её в цвете, в новом дизайне, даже новом формате. Не сомневаюсь, что «ВГ» и как бизнес-проект был бы удачным: район получил бы немалые деньги в бюджет, газета обеспечила бы новые рабочие места, для молодежи прежде всего. Но пока это только мечты. И, вероятно, при этой власти они неосуществимы.

**– Любая редакция — это группа единомышленников. Как формировался редакционный коллектив, кто из интересных авторов пришел к вам за эти годы?**

– Не скажу, что коллектив не претерпевал изменений. Ставились новые задачи,

### ОБЪЕКТИВКА

**Сергей НЕРОВНЫЙ, бессменный редактор газеты «Вольны горад» – с первого номера (20 апреля 1998 г.) по настоящее время. За 12 лет вышло более 400 номеров.**

**В политике и общественной жизни с осени 1992 г. С ноября 1994 г. – член ОДПБ (позже ОГП). Женат с 2002 года на Татьяне Лейбутиной, есть дочь Дарья. Из-за активной жизненной позиции супругу фактически выгнали с работы (не продлили контракт с 1 сентября 2011 г. в лицее).**

**Член БАЖ с 2000 г. Пишет статьи, рассказы, стихи.**

# ЭКСПЕРТИЗУ ВРЕМЕНЕМ

поднимались на новую ступеньку, приходили и новые люди. Климовичский журналист Сергей Аржанцев в «ВГ» уже не менее 10 лет, кричевлянин Николай Гердий – более 7 лет. В последние годы постоянными авторами стали чериковляне Николай Царьков и Семён Понизовцев. Даже если они пишут под псевдонимами, люди их легко узнают по стилю. Считаю, что интересными и перспективными авторами будут Иван Филиппов и Анна Владова.

**– С 1998 года по нынешнее время было всякое — штрафы, конфискация номеров и компьютеров, вызовы в прокуратуру и КГБ. А каков нынешний стиль взаимоотношений с властью, есть ли изменения к лучшему?**

– Что правда, то правда, за эти годы власть не раз пробовала нас «на зуб». Но своё и читательское право на свободу слова мы отстояли. В последние годы можно заметить, что обострение отношений с властью отмечается в канун президентских выборов. Так, например, произошло в 2010 году.

Но смею предполагать, что в глубине души даже самые яростные душители свободы нас уважают. По-своему, конечно.

**СЯМЁН СЯМЁНАВІЧ ПАНІЗОЎЦАЎ, ЧЭРЫКАЎ:**

– Працую з "Вольным горадам" таму, што, выбачайце за пафас, не дае спакою пачуццё абвостранай справядлівасці.

На пачатку дзевяностых выпускалі сваю газету "Сельские новости". Друкавалі на машынцы пад капіроўку накладам сто экзэмпляраў. Потым была наша старонка ў магілёўскай "Ратушы". А затым гэты "кайф" закончыўся…

Дзеля справядлівасці хачу сказаць, што ніхто мяне за мае погляды ды перакананні не прыціскаў і не пераследаваў. Рабочыя планы пісаў толькі на беларускай мове. Журналы запаўняў толькі па-беларуску. З работы выгналі пасля таго, як наступіў на "любімы мазоль" аднаго з высокапастаўленых чыноўнікаў райвыканкама.

Вось тады і стаў супрацоўнічаць з "Вольным горадам".

**ТАТЬЯНА ЛЕЙБУТИНА, КОРРЕСПОНДЕНТ "ВГ":**

– Выбор. У каждого из нас он происходит в основном в зрелом возрасте, когда точно понимаешь, что ты делаешь и какие последствия тебя ждут.

Почти десять лет назад я сделала свой непростой, но обдуманный и сознательный выбор. Я встретила Сергея Неровного, который стал для меня больше чем редактором газеты «Вольны горад». Сначала было много сомнений, вопросов, но жизнь и наша система власти расставили все точки над «и». Убедилась, что выбор Сергея и его команды правильный. Моё увольнение с работы ещё раз доказало: назад пути нет, есть только вера в себя, семью, Бога. Хочется верить в светлое будущее нашей страны и надеяться, что когда-нибудь я и жители нашего города смогут спокойно покупать наш «Вольны горад» в киосках «Белпечати».

**НИКОЛАЙ НИКОЛАЕВИЧ ГЕРДИЙ, ЗАМЕСТИТЕЛЬ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА «ВОЛЬНАГА ГОРАДА»:**

– Окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию по специальности «экономист», позже – Высшую партийную школу по специальности «политолог». Когда учился в ВПШ и заочно в аспирантуре, достаточно глубоко изучал политологию, экономику, философию. И уже к началу перестройки в СССР однозначно осознавал, что Советский Союз идёт по тупиковому пути развития.

С 1986 по 1991 г. работал секретарем Хотимского РК КПБ и трудился над диссертацией – пытался найти возможность реформирования сельскохозяйственных организаций для работы по рыночным методикам. С 1992 по 2000 г. работал зампредом Кричевского райисполкома. Пытался осуществить свои наработки на родине – в Кричеве.

В 2000 г. был избран председателем правления ассоциации предпринимателей и нанимателей района. Формально остаюсь им и сейчас. Решение того собрания никто не отменял.

В 2003 г. вместе с предпринимателями района организовал выдвижение нескольких предпринимателей кандидатами в депутаты райсовета. Сам пытался выдвинуться кандидатом в депутаты Могилевского областного Совета депутатов и райсовета вопреки воле руководства района, за что в 2003 году со мной был расторгнут контракт. В течение нескольких лет был безработным. Пытался бороться с недостатками в районе путем обращения в вышестоящие инстанции. Осознал, что это тупиковый путь. Хотел заняться предпринимательской деятельностью – не дали.

Понял, что нужно бороться с системой и раскрывать людям глаза на ее недостатки. В «Вольны горад» пришел в 2004 году осознанно и нисколько об этом не жалею.

**АЛЕКСАНДР КОКТЫШ**


Крычаўская грамадска-палітычная газета
Вольны горад
№38 (441)
14.10.2012, Нд
ОЛИТИЧЕС-
АБОРОМ

**МНЕНИЕ ЭКСПЕРТА**

**Юрий ТОПОРАШЕВ, журналист с многолетним стажем работы в различных белорусских СМИ:**

– С этой газетой, с людьми, которые ее делают, я познакомился в Могилёве. Меня сразу заинтересовал неординарный подход к освещению самых важных событий и тенденций в Кричеве: «Вольны горад» явно выходил за рамки местечковых изданий.

Потом были регулярные встречи с редакционным коллективом «ВГ», на которых обсуждалось улучшение качества данной газеты. Лично я теперешний «Вольны горад» считаю очень хорошим образцом региональной прессы, которая отвечает РЕАЛЬНЫМ ЗАПРОСАМ ЧИТАТЕЛЯ.

Не раз сталкивался с тем, как местные жители буквально гоняются за этим изданием, в цехах предприятий устраиваются коллективные читки «ВГ», обсуждения наиболее резонансных материалов. Я всегда был за остроту в журналистике, чего не хватает многим нашим средствам массовой информации, в том числе даже некоторым независимым. В чём, в чём, а в отсутствии остроты на своих страницах это издание точно не упрекнёшь. Вместе с тем в сегодняшних условиях надо быть предельно внимательным при написании таких острых текстов. Неслучайно главный редактор Сергей Неровный недавно получил юридическое образование, чтобы максимально придерживаться правового поля.

И вместе с тем по актуальности, остроте, аналитике «Вольны горад» обгоняет не только официальные районные издания, но и некоторые республиканские газеты. Это говорит о том, что у «ВГ» есть будущее.

# ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ НАПІСАЎ У ТУРМЕ АПАВЯДАННЕ «ЧАРВЯК»

**«Гэта той самы аповед, урыўкі каторага я публікавала ў сябе на старонцы. Ён быў напісаны год таму і вядзе гаворку пра жыццё ў Горацкай і Глыбоцкай калоніі.**

Артыкул вялікі, магчыма, не так проста адразу прачытаць яго, але ён напоўнены тым болем і жорсткасцю рэчаіснасці, той радасцю ад турэмных сяброў і горыччу растання з каханымі. Ён пра голад у турме і жахлівасць камернай сістэмы. Ён пра самоту. Пра страх перад невядомасцю. Ён пра рэальную турму, пра тую, якую мы не ведаем. Гэта артыкул, каторы жывы. Ён баліць», – напісала на сваёй старонцы ў фэйсбуку жонка Змітра Наста Дашкевіч. Распавядае "Наша ніва".

* * *

Я стаяў у "клетцы". Гэта была адна з трох камер КПП-2 — 50 на 50 см, з цаглянымі сценамі і замест дзвярэй кратамі, якія гэтак жа адчыняліся і зачыняліся. Дзякуючы дызайнерскім асаблівасцям, буды гэтыя і называюць у народзе "клеткамі" ці "стаканамі".

КПП-2, як і кожнае такое КПП у іншых лагерах, падзяляе жылую і працоўную зоны. Апроч камер для правапарушальнікаў, на КПП, перадусім, знаходзяцца: пакой дзяжурнага, дзе ўсталяваны электронныя прыборы кантролю калоніі; у выглядзе дзвярной рамы — металашукальнік, праз які мусяць праходзіць зэкі вяртаючыся з прамзоны. Ёсць тут яшчэ невялікі кабінецік, на сцяне яго вісіць пластыкавы макет зоны з усімі абарончымі рубяжамі: адначасова і пакой для інструктажу змены перад працаю, і перакусачная; а побач месціцца пакой для дагляду асуджаных, перад закрыццём у "стакан". У пакоі гэтым, чамусьці, стаіць вялізны сейф.

— Што захоўваеце ў сейфе-та? — запытаў я неяк у кантралёра, каторы асабліва пільна там мяне распранаў.

— Паслядоўнасць растрэлу бандытаў пры надзвычайным становішчы, — ці тое усур'ёз, ці тое па прыколу заявіў мне даглядчык.

— Дык якія вам паслядоўнасці? — даў я ў сваю чаргу параду. — Шмаляйце ўсіх направа-налева і канцы ў ваду.

— Ну так, вады тут шмат, — загадкава пагадзіўся той.

Што мне было яшчэ казаць? Вады і сапраўды там шмат — зона стаіць у возеры. Віцебшчына — край блакітных азёраў.

— Трымай.

Я працягнуў з клеткі руку і зэк гэтак жа хутка паклаў нешта мне ў далонь ды тут жа выйшаў у шэрагу асуджаных, што вярталіся з працы ў зону.

Я расціснуў кулак—то былі тры шакаладныя цукеркі. Мяне ажно праняло: не тое, каб ад шакаладных пачастункаў (раздаваць якія невядома каму — гэта святатацтва для зэка), як ад разумення таго, што сярод гэтага шэра-чорнага натоўпу чалавекаў, усё ж, больш, чым тое можна было б меркаваць. Вось гэты—невядома хто,але не пабаяўся падтрымаць, хоць, безумоўна, ведае, што вокамгненна можа патрапіць у няласку і стаць побач, у суседнюю клетку.

Зміцер Дашкевіч быў затрыманы — паводле афіцыйнай версіі — 18 снежня 2010 г., за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. Аднак у 2012 годзе выязным судом ён быў прыгавораны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013 года.

Раней у турме ён напісаў апавяданне «Гумовы тапак».



*Кніга пра менш вясёлых чарвякоў*



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 11.07.13
Тыраж 299 экзэмпляраў